У НУМАРЫ:

□ *Журналісцкае даследаванне.*
ЛЯ КАРЫТА Ў ЗГОДЗЕ РАК І ШЧУПАК.
Жыллёвая праблема ў Віцебску. 2

БАІ НЕНАВУКОВАГА ЗНАЧЭННЯ.
Навука і грошы. 2

□ *Паштовая скрынка.* 2

□ *Салон прыгажосці.*
З ПОДЫУМА – НА ВУЛІЦУ.
Мода і мы. 3

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

*10 снежня 1994 г.*
*Субота*
*№ 133(13850)*
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года




Малюнак В.САКОВІЧА.



*Фота Сяргея БРУШКО.*

## Кур'ер "ЧЗ"

### Узнагарода для "Зубраняці"

*Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русакевіч пабываў у Рэспубліканскім дзіцячым аздараўленчым цэнтры "Зубраня".*

Ён павіншаваў педагагічны калектыў цэнтра з узнагароджаннем ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

### "Крокі Вялікай Перамогі"

*Так назвалі будучую шырокамаштабную ваенна-патрыятычную і культурна-гістарычную акцыю, прымеркаваную да 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, Цэнтральны Дом афіцэраў, ваенна-навуковае таварыства і іншыя арганізатары гэтага своеасаблівага завочнага паходу па месцах галоўных аперацый і буйнейшых бітваў II сусветнай вайны.*

Акцыя задумана не толькі як гістарычнае даследаванне вынікаў вайны, але і як памяць аб героях і ахвярах, як заклік да ўсіх людзей зямлі не дапусціць паўтарэння ваеннага кашмару.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Эх, пракоцімся... па новых цэнах

*З сённяшняга дня ў 2 разы зноў даражаюць паслугі міжгародняга транспарту.*

Кошт праезду ў мяккім аўтобусе за 1 кіламетр складзе 70 рублёў, у простым — 65 рублёў.

**Анатоль РАМАНОВІЧ.**

### Навука вочы адкрывае...

*Паводле паведамлення Віцебскага абласнога ўпраўлення статыстыкі, сёлета ў вобласці працуюць 834 дзённыя агульнаадукацыйныя школы, у якіх вучыцца 200,5 тысячы вучняў, 5 ВНУ з колькасцю студэнтаў 17,2 тысячы, 24 сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы з колькасцю навучэнцаў 18,1 тысячы, 40 прафесійна-тэхнічных вучылішчаў з колькасцю навучэнцаў 19,2 тысячы.*

Сёлета ВНУ вобласці падрыхтавалі 3,3 тысячы спецыялістаў, сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы — 5,4 тысячы, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы 8,2 тысячы рабочых розных спецыяльнасцей.

### ...але закрывае перспектыву

*Многія выпускнікі сутыкнуліся з праблемай працаўладкавання. Накіраванні на работу не атрымалі 21 працэнт выпускнікоў ВНУ, якія закончылі дзённыя аддзяленні, 37 працэнтаў — тэхнікумаў і 11 працэнтаў выпускнікоў прафтэхвучылішчаў.*

Як бачым, вучыцца ў наш час не толькі непрэстыжна, але і рызыкоўна — можаш навучыцца на беспрацоўнага. То, можа, лепей паслухаць парады Мітрафанушкі?

**Уладзімір МІХНО.**

### "І ажываюць спадчыны старонкі"

*Гэтыя словы можна лічыць эпіграфам усёй творчасці вядомага беларускага даследчыка гісторыі культуры і літаратуры Адама Мальдзіса. "Хрэсьбіны" новага выдання пад такой назвай адбыліся на радзіме пісьменніка ў Астраўцы.*

Аўтар выступіў перад культработнікамі і настаўнікамі, расказаў пра творы, якія ўвайшлі ў зборнік.

З выхадам у свет выбранага, якое, безумоўна, падводзіць нейкую прамежкавую рысу пад творчасцю пісьменніка, не спыніліся яго літаратуразнаўчыя пошукі і вандраванні. Шмат намаганняў прыкладвае Адам Мальдзіс у пошуках згубленай пад час вайны нацыянальнай святыні — Крыжа Ефрасінні Полацкай. Акрамя таго, вучонаму ўдалося адшукаць сляды некаторых гістарычных асоб — ураджэнцаў Астравеччыны: Казіміра Сваяка, мастакоў Льва Дабжынскага і Богуша Шышкі.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### Зоркі рока ў Мінску

*Багатым сёлета выдаўся снежань на разнастайныя імпрэзы замежных рок — знакамітасцей у сталіцы рэспублікі.*

6 снежня адбыўся канцэрт легенды брытанскага рока гурта "Слэйд", які абмежаваўся толькі адным выступленнем у Мінску і сабраў вялікую аўдыторыю аматараў рока, нягледзячы на кошт квіткоў.

12 снежня да нас завітае папулярны ў Еўропе славянскі гурт "Лайбах". Каманда з былой Югаславіі працуе ў стылі альтэрнатыўнага рока. На думку многіх, менавіта выступленне гурта "Лайбах" у сталіцы рэспублікі стане падзеяй нумар адзін у культурным жыцці Мінска. Канцэрт адбудзецца ў ДК Белсаўпрофа. Крыху пазней, 15 снежня, — яшчэ адна падзея, якая, трэба спадзявацца, не пакіне абыякавымі аматараў рока, асабліва цяжкага. У спартыўным комплексе "Дынама" выступіць папулярны руска-амерыканскі гурт "Парк Горкага".

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.**

### Няўдалы "транзіт"

*Група з 46-ці парушальнікаў затрымана беларускімі пагранічнікамі на беларуска-літоўскай граніцы. У яе састаў уваходзіў 1 непалец, 7 пакістанцаў, 12 ланкійцаў і 26 індусаў.*

Аперацыя праводзілася па прывычнай схеме. Транзітам праз Маскву і Беларусь, а адтуль (калі пашанцуе) у Германію. Аднак у апошні час "нелегалам" вельмі не шанцуе. Арганізатары такіх аперацый іх проста падманваюць. Збяруць з кожнага даволі вялікую суму, давязуць да граніцы і... кінуць. Так было і на гэты раз. Групу затрымалі пагранічнікі.

Застаецца толькі дадаць, што 21 чалавека з гэтай групы ўжо затрымлівалі раней на гэтым участку граніцы.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Справа нязнойдзенай міны

*З'езд беларускіх нацыяналістаў, што адбываўся ў Віцебску ў прыватнай галерэі мастака Алеся Пушкіна быў разагнаны мясцовымі міліцыянерамі. Шукалі міну, якая нібыта была падкладзена ў будынак. Словам, прадстаўнікі партыі "Правага рэваншу", мясцовыя актывісты БНФ, НДПБ, госці і журналісты былі выштурхнуты на вуліцу.*

На другі дзень удзельнікам з'езда перашкодзілі ўскласці кветкі да помніка Уладзіміру Караткевічу, многіх арганізатараў арыштавалі.

Дарэчы, у гэты ж дзень у памяшканні тэатра Якуба Коласа ўрачыста адзначалася дата славутага земляка. Ва ўрачыстасці прыняў удзел народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Тут жа прадстаўнікі славянскага сабору "Белая Русь" над чорнымі манархічнымі флагамі пікетавалі ля тэатра, ганьбілі імёны беларускіх асветнікаў і культурных дзеячаў краіны. Міліцыянеры не звярталі на гэта ніякай увагі.

Па ініцыятыве пацярпеўшых гэта справа будзе разглядацца ў пракуратуры.

**Яўгенія ВІЦЬБА.**

### Курсы валют на 9 снежня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 8390 | 8640 | 5319 | 5510 |
| "Дукат" | 8450 | 8600 | 5300 | 5650 |
| "Прыор" | 8450 | 8600 | 5350 | 5480 |

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

# Імпульс, або Сага абвальнага часу

□ **Якау ЯСЭПКІН,"ЧЗ"**

Адыходзіць у гісторыю чарговы снежаньскі тыдзень. Адзначым асноўнае. У нядзелю Аляксандр Лукашэнка, як вядома, вылецеў у Будапешт на сустрэчу кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін — удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (НБСЕ). Міжнародны форум (агульная колькасць дэлегацый — каля дзвюх тысяч чалавек) праходзіў не ў зусім трыдыцыйным рэчышчы. Аб розных аспектах будапешцкай сустрэчы падрабязна пісалася ў друку, таму наўрад ці варта паўтарацца. Скажам толькі пра ўзнікшую "вось супрацьстаяння" Масква—Вашынгтон. Расійскі тэзіс: "НБСЕ павінна адыгрываць цэнтральную ролю ў гарантаванні бяспекі і стабільнасці ў Еўропе, яе статус трэба павысіць на парадак" неадэкватна ўспрыняла амерыканская дэлегацыя. Гучны рэзананс атрымала таксама рэзка негатыўнае стаўленне Б.Ельцына да імклівага пашырэння НАТО. Былі і іншыя дыяметральна процілеглыя ацэначныя характарыстыкі сучаснага развіцця сусветных працэсаў, выказаныя расійскім і амерыканскім прэзідэнтамі. У выніку пад час гутаркі з прадстаўнікамі "масс-медиа" Барыс Ельцын заўважыў: Клінтан не паехаў з нарады трыумфатарам. Для Беларусі важна наступнае. Падпісанне Мемарандума аб гарантыях бяспекі нашай рэспублікі, Казахстана і Украіны гарантавала тром былым рэспублікам Саюза павагу іх незалежнасці, суверэнітэту і існуючых граніц. Гаранты — Злучаныя Штаты, Расійская Федэрацыя, Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі. Але А.Лукашэнка, хаця і дастаткова плённа выкарыстаў магчымасці венгерскага самміту, у прыватнасці меў некалькі сустрэч на вышэйшым узроўні, пасля вяртання ў Мінск усё ж досыць скептычна выказаўся наконт канкрэтных вынікаў нарады. У той жа час удзел беларускай дэлегацыі ацэнены па высокай шкале. Напрыклад, прэзідэнт Венгрыі А.Генц назваў Беларусь "героем гэтай сустрэчы". Падзеі ў свеце мелі сваю дынаміку, у рэспубліцы — сваю. Таму вернемся да айчынных краявідаў. Пункцірна пазначым галоўную фактналогію.

На традыцыйнай урадавай прэс-канферэнцыі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір аб'явіў аб рашэнні вярнуцца з 1 снежня да свабоднага цэнаўтварэння па тых відах прадукцыі, цэны на якія замарожаны ў лістападзе. Цікава, што на гэты раз падобны крок узгоднены з прэзідэнтам. Што пацвердзіў і сам Аляксандр Рыгоравіч пасля будапешцкай паездкі. Дарэчы, па ягонаму загаду на сацыяльныя выплаты малазабяспечаным грамадзянам было дадаткова выдзелена 20 мільярдаў беларускіх рублёў. Чыгір растлумачыў урадавую палітыку неабходнасцю заявіць МВФ "свае пазіцыі ў галіне цэнаўтварэння і пераўтварэнняў у эканоміцы". Тлумачэнне прэм'ера, напэўна, з'явілася слабым суцяшэннем грамадзянам, якія літаральна праз дзень сталі сведкамі чарговага скачка цэн нават на тавары першай неабходнасці. Як і абяцанне аддаць ім праз павышэнне зарплаты ўсё "зэканомленае" бюджэтам на павышэнні цэн і тарыфаў. Хутчэй за ўсё, многія згадаюць у такой сувязі і пра публічнае абяцанне прэзідэнта ў прамым тэлеэфіры з нагоды падняцця цэн на хлеб: гэта апошняе павышэнне. Безумоўна, і тады цяжка было ўспрымаць усур'ёз прыемныя для слыху словы. Чакаецца, ужо стаўшыя фактам цэнавыя скачкі не будуць апошнімі "навагоднімі падарункамі". За здавальненне трэба плаціць —фразема надта актуальная. Не засталася непрыкмечанай таксама пэўная актывізацыя кіраўніцтва Вярхоўнага Савета. Прэс-служба ВС распаўсюдзіла заяву Мечаслава Грыба, дзе спікер тэкстуальна трактуе і растлумачвае характар паўнамоцтваў выканкамаў Саветаў базавага і абласнога ўзроўняў пасля вядомага рашэння Канстытуцыйнага суда. Першы афіцыйны візіт у Вялікабрытанію дэлегацыі беларускага парламента таксама можна лічыць паспяховым. У Лондане нашы дэпутаты на чале з М.Грыбам наведалі палату лордаў і палату абшчын, міністэрства замежных спраў, эканамічны Інстытут Адама Сміта, Беларускі культурны цэнтр. Трэба сказаць і пра чарговы "ход канём" парламенцкіх патрыярхаў. Група дэпутатаў ВС (75 чалавек) звярнулася ў Канстытуцыйны суд з просьбай разгледзець пытанне аб канстытуцыйнасці пастановы Кабінета Міністраў і Нацыянальнага банка рэспублікі ад 12 жніўня 1995 года "Аб дэнамінацыі беларускага рубля". "Справа 75-ці" абяцае стаць не меней гучнай, чым "справа Піскарова" і ўсё ж дамінавалі на тыдні паведамленні з урадавых кабінетаў і кулуараў. Пра іх крыху ніжэй, спачатку два словы пра юбілейныя навіны тыднёвага хронасу. Яны няроўназначныя.

У чацвер СНД "адсвяткавала" сваё трохгоддзе. Сённяшні "спектральны аналіз" гістарычнай падзеі ніяк не вызначаецца ні глыбінёй аналізу, ні дакладнасцю ацэначных характарыстык. Адзначым: хісткія надзеі, якія звязваліся з "цывілізаваным" разбурэннем СССР, пакуль не спраўдзіліся. Дэкларатыўнасць, заявы аб намерах, дэманстрацыя добрай волі і імкнення да больш глыбокай інтэграцыі, бадай, уяўляюць сёння адзіную запоўненую нішу ва ўяўнай будове "пластылінавай" Садружнасці. Аднак вернемся да ўрадавых страсцей. Адбылося чарговае пасяджэнне Кабінета Міністраў, абмяркоўваліся прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця і праект бюджэту краіны на наступны год. "Бюджэт павінен быць рэальным", — лічыць М.Чыгір. Здаецца, ва ўрадзе ўведамляюць, што толькі каардынальныя меры могуць змяніць сітуацыю ў эканоміцы, але гэткія меры нельга лічыць рэаліямі па простай прычыне: нават спрэчныя пастулаты антыкрызіснай праграмы сёння не знімаюцца з парадку дня па пунктах, згодна з праграмнай храналогіяй. Яшчэ навіна тыдня: намеснік прэм'ера В.Ганчар правёў арганізацыйнае пасяджэнне камісіі для выпрацоўкі прапаноў па ўдасканаленню аплаты працы работнікаў бюджэтных галін. Яна стала фактам учарашняга дня, бо Віктар Іосіфавіч (размовы пра гэта вяліся ў кулуарах і раней) пайшоў у адстаўку. Учынак віцэ-прэм'ера стаў своеасаблівым імпульсам-сігналам: не ўсё спакойна ў Дацкім каралеўстве.

РЭПЛІКА

### ПАДЛАЖЫЛІ СВІННЮ ГОДУ СВІННІ

Прачытала ў "Чырвонай змене" ад 8 снежня 1994 года пра павышэнне цэн на малочныя прадукты (у два разы), на ялавічыну на 20 працэнтаў, на хлеб і хлебабулачныя вырабы на 30 працэнтаў. На столькі ж — на свініну.

А вось напярэдадні года Свінні (у трэцюю гадавіну развалу СССР) можа не трэба было б павышаць цэны на мяса гэтай жывёліны? Каб не праклінадлі і яе, і год наступны...

Раней сродкі масавай інфармацыі, параўноўваючы жыццё "ў іх" і "ў нас", пісалі пра беспрацоўе, пра павышэнне цэн на Захадзе, у Амерыцы. Параўнанні былі на нашу карысць.

Можна параўноўваць і цяпер. Але...

У тым жа нумары "Чырвонкі" ў рубрыцы "Дзевятае неба" ёсць маленькая нататка пад загалоўкам "Мэйджар пацярпеў фіяска". Пра тое, як "у іх". Прыводжу яе поўнасцю.

"Урад Джона Мэйджара, які прапанаваў павялічыць падаткі на ацяпленне і электраэнергію, не атрымаў падтрымкі членаў парламента.

Большасць дэпутатаў-кансерватараў, а таксама прадстаўнікі апазіцыі выступілі супраць прыняцця такой меры, вырашыўшы, што ўрад зможа знайсці іншыя крыніцы для падтрымання свайго бюджэту".

А пра тое, як "у нас". У матэрыяле "Цэны атрымалі вольную" чытаем: "...з 25 снежня ў сем разоў павысіцца кватэрная плата, у 5,5 — ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне, у 2,5 — водаправод, у 1,5 — электраэнергія" і г.д.

Ну што ж, толькі можна цяжка ўздыхаць, успамінаючы пасляваеннае зніжэнне цэн. А цяпер... Жыхары Беларусі атрымалі "цудоўны" навагодні падарунак.

**Валянціна ЛУЦЭВІЧ.**

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

## "Уорлднэт"

### ПАЎНОЧНАЯ АМЕРЫКА – НА НАРАДЗЕ

*У Маямі пачалася сустрэча паўночнаамерыканскіх дзяржаў на вышэйшым узроўні.*

У ёй прымаюць удзел усе дзяржавы Паўночнай Амерыкі, акрамя Кубы. Асноўнае пытанне, якое будзе разгледжана на нарадзе, — стварэнне свабоднай гандлёвай зоны ў межах Канады, ЗША і Мексікі. Мяркуецца, што яна будзе адкрыта да 2000 года.

### НАТО ЗБІРАЕЦЦА Ў БОСНІЮ

*ЗША гатовы да высадкі наземных войск у Босніі.*

Злучаныя Штаты заявілі, што пашлюць туды сваю армію, калі з Босніі будуць выведзены войскі ААН.

## "Суперчэннэл"

НАТО даручыла сваім спецыялістам выпрацаваць план дзеянняў на выпадак вываду міратворчых сіл.

### УНІТА – ЗА СТАЛОМ ПЕРАГАВОРАЎ

*У Анголе пачаліся мірныя перагаворы.*

Удзел у іх прымаюць прадстаўнікі дзяржавы і групоўкі УНІТА, якая два гады таму не прызнала паражэння на выбарах і парушыла перамір'е.

### УЗАМЕН НА МІР – БАРАЦЬБА З ТЭРАРЫЗМАМ

*Дзяржсакратар ЗША Уорэн Крыстафер вярнуўся з Блізкага Ўсходу.*

## "Еўраньюс"

Апошняя сустрэча Крыстафера адбылася з Ясірам Арафатам. Палесцінскі лідэр паабяцаў дзяржсакратару змагацца супраць тэрарызму фундаменталістаў, але для гэтага патрабаваў мірных гарантый з боку Ізраіля.

### ПАЖАРНАЯ "ЭПІДЭМІЯ" ПРАЦЯГВАЕЦЦА

*У Кітаі зноў успыхнуў пажар.*

На гэты раз пад час сеанса ў кінатэатры. У агні загінула каля 300 дзяцей і школьнікаў, 30 чалавек удалося выратаваць. Як вядома, два тыдні таму ў падобнай сітуацыі на дыскатэцы загінулі 243 чалавекі. Усяго ж за апошні год у Кітаі пажары забралі 14 тысяч жыццяў.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

